№ 165 (747)
Серада, 8 верасня 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., па падпісцы — 11000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

# Народная Воля











## Зварот

## да народа Беларусі, усіх беларусаў свету, парламентаў і ўрадаў дэмакратычных краін

20 ліпеня 1999 года скончыўся тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі, нелегітымнымі сталі і ўсе прызначаныя ім структуры.

З гэтай нагоды, згодна са 105-м артыкулам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, да прынясення прысягі новаабраным прэзідэнтам паўнамоцтвы прэзідэнта Рэспублікі Беларусь перайшлі да старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага, а абавязкі старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь — да першага намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Віктара Ганчара. У бліжэйшыя дні павінен быць сфарміраваны і новы ўрад. Згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, павінны адбыцца выбары прэзідэнта.

Але А.Лукашэнка і створаны ім рэжым, выкарыстоўваючы антыканстытуцыйныя метады, працягваюць утрымліваць уладу. Больш за тое, яны і далей праддпрымаюць свае намаганні па аб'яднанні Беларусі з Расіяй у адну дзяржаву, прэзідэнтам якой марыць стаць А.Лукашэнка. На жаль, ва ўсім гэтым іх падтрымліваюць шматлікія расійскія палітыкі, якія таксама жадаюць аднаўлення імперыі.

Мы звяртаемся да народа Рэспублікі Беларусь і ўсіх беларусаў свету з заклікам спрыяць станаўленню ў Беларусі канстытуцыйнай улады, усталяванню незалежнай дэмакратычнай прававой дзяржавы.

Мы звяртаемся да парламентаў і ўрадаў дэмакратычных дзяржаў з заклікам не прызнаваць узурпатара і створаныя ім у Беларусі антыканстытуцыйныя структуры, спрыяць імкненню беларускага народа да незалежнасці, падтрымаць права беларусаў вызначаць свой лёс праз дэмакратычна абраную ўладу.

**На здымку:** *пасля падпісання Звароту (злева — направа): Радзім Гарэцкі, Івонка Сурвілла, Станіслаў Шушкевіч, Сямён Шарэцкі (Мячэслаў Грыб у гэты дзень знаходзіўся ў Швецыі і падпісаў Зварот пазней).*

**Івонка СУРВІЛЛА, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі;**
**Станіслаў ШУШКЕВІЧ, першы старшыня Вярхоўнага Савета незалежнай Рэспублікі Беларусь;**
**Мячэслаў ГРЫБ, старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, падпісант Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь;**
**Радзім ГАРЭЦКІ, Прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".**

**Прафсаюзы**

## Мы не можам маўчаць

Каардынацыйны савет, створаны ў Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай (ФПБ) па падрыхтоўцы і правядзенні акцыі пратэсту працоўных 30 верасня, зацвердзіў праект рэзалюцыі, якую плануецца прыняць на маючым адбыцца мітынгу. "Мы не павінны маўчаць, калі не выконваюцца генеральнае, галіновыя і мясцовыя пагадненні, калектыўныя дамовы, калі зарплата становіцца не больш чым мізэрнай дапамогай па беднасці, — гаворыцца ў праекце рэзалюцыі.

Праект дакумента змяшчае наступныя патрабаванні да кіраўніцтва краіны: спыніць рост цэн і інфляцыю, адмяніць акты заканадаўства, якія абмяжоўваюць развіццё вытворчасці і зніжаюць узровень жыцця насельніцтва; неадкладна перагледзець памер зарплаты, пенсій, стыпендый і дапамог, забяспечыць іх рэальны рост і своечасовую выплату; заканадаўча замацаваць за зарплатай статус першачарговага плацяжу; забяспечыць індэксацыю даходаў на ўзроўні не ніжэй бюджэту пражытачнага мінімума; адмяніць дэкрэт аб дадатковых захадах па ўмацаванні працоўнай дысцыпліны, бо ён пагаршае прававое становішча работнікаў; рэгулярна прадастаўляць прафсаюзам магчымасць выступаць на тэлебачанні і радыё, у іншых СМІ.

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**

**Крымінал**

## Вялікая колькасць зброі знойдзена ў кватэры...

Цэлы арсенал зброі знойдзены супрацоўнікамі Брэсцкага абласнога ўпраўлення па арганізаванай злачыннасці і карупцыі ў кватэры 41-гадовага кіроўцы адной з брэсцкіх філіяў "Беларусбанка".

Вобыск у кватэры, дзе жыве кіроўца, перавысіў нават самыя смелыя меркаванні: у тайніках былі знойдзеныя пісталеты "МАЗ-35", "Вальтэр" часоў другой сусветнай вайны з магазінам і патронамі, "Пратэктар" з патронам у ствале, самаробны наган і яшчэ адзін пісталет імпартанай вытворчасці ў разабраным выглядзе. Аператыўнікі канфіскавалі ў В. вялікую колькасць дэталяў да розных пісталетаў і эскізы зброі, а таксама дэтанатар з выбуховай прыладай. Гаспадар гэтага арсеналу заявіў, што ён калекцыяніруе зброю выключна "ў мірных мэтах". Брэстчанін арыштаваны, супраць яго ўзбуджана крымінальная справа, вядзецца следства.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Сегодня в Минск прибывает из России очередной глава правительства Владимир Путин. Не сыграет ли он роль, которую когда-то сыграли Черномырдин и Строев?



Появление на Беларуси российских премьеров означает, что братья-славяне в очередной раз протягивают руку помощи Лукашенко. Черномырдин, Кириенко, Степашин, Путин... — скоро уже и пальцев на руке не хватит, столько их перебывало в Минске, начиная с 1996 года. Стоит только оппозиции хоть чуть-чуть раскачать кресло под уже не всенародноизбранным Александром, как "старшие братья" тут как тут.

Вот и сегодня вынужден идти на переговоры с оппозицией: ведь в Совет Европы без демократических выборов и близко не подпускают. От всех ворот — поворот. И ко всему — неутешительные сводки с полей.

Официально Владимир Путин приезжает для участия в заседании Исполнительного комитета Союза Беларуси и России. Но прибытие главы российского правительства будет с помпой обставлено президентскими средствами массовой информации как братание российского посланца с А.Лукашенко. Неофициально же, за закрытыми дверями, судя по всему, будут в очередной раз искать пути выхода из конституционного кризиса, в который завел нашу страну Лукашенко. И конечно же не без помощи "старших братьев". Вспомним хотя бы приезд Черномырдина и Строева.

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**

## Дзве прэм'еры тэатра оперы

Адкрыццё 67-га тэатральнага сезона ў Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы Рэспублікі Беларусь адзначана адразу дзвюма прэм'ерамі. Прэм'ерным спектаклем оперы Джузепэ Вердзі "Набука" трупа завяршыла мінулы сезон, але тады гэта было канцэртнае выкананне. Цяпер, як і на нядаўніх гастролях у Германіі, быў паказаны сцэнічны спектакль. У касцюмах, фактычна без дэкарацый, але з выкарыстаннем цудоўнага святла выканаўцы стварылі асаблівую атмасферу. Галоўныя партыі яскрава і выразна выканалі народны артыст Юрый Бастрыкоў, Тамара Глаголева, заслужаны артыст, лаўрэат усесаюзных і міжнародных конкурсаў Алег Мельнікаў, народны артыст Расіі Эдуард Пелагейчанка. Паўнапраўнай дзеючай асобай спектакля з'явіўся хор пад кіраўніцтвам галоўнага хармайстра — заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Ніны Ламановіч, якім дырыжыраваў Вячаслаў Чарнуха.

З вялікім поспехам прайшоў другі прэм'ерны спектакль — адна з лепшых опер Гаэтана Даніцэці "Лючыя дзі Ламермур". У партыі Лючыі выступіла Вікторыя Курбацкая, якая ў гэты вечар была ў лепшай форме. Да пары ёй былі ў гэты вечар лаўрэат міжнародных конкурсаў Сяргей Драбышэўскі, заслужаны артыст Беларусі, лаўрэат міжнародных конкурсаў Уладзімір Пятроў, Эдуард Пелагейчанка і Алег Мельнікаў. Хорам у гэтым спектаклі кіраваў галоўны дырыжор тэатра Аляксандр Анісімаў.

**Вера КРОЗ.**

**Афіцыйна**

## А.Лукашэнка назначыў новых паслоў у Швецыі, Малдове і ФРГ

Аляксандр Лукашэнка 3 верасня назначыў сваімі ўказамі надзвычайнымі і паўнамоцнымі пасламі Рэспублікі Беларусь: у Каралеўстве Швецыя — Алега Ермаловіча; у Рэспубліцы Малдова — Васіля Саковіча; у Федэратыўнай Рэспубліцы Германія — Уладзіміра Скварцова.

**Алег Вячаслававіч ЕРМАЛОВІЧ** нарадзіўся ў 1955 годзе. Кандыдат гістарычных навук. Валодае англійскай і французскай мовамі. З 1993 па 1996 год — дарадчык па гандлёва-эканамічных пытаннях беларускага пасольства ў Швейцарскай Канфедэрацыі. З 1996 па 1999 год — начальнік упраўлення Міністэрства замежных спраў Беларусі (з 1999 года — Упраўлення агульнаеўрапейскага супрацоўніцтва).

**Васіль Аўдзеевіч САКОВІЧ** нарадзіўся ў 1949 годзе. Працаваў загадчыкам аддзела будаўніцтва, сакратаром Віцебскага абкама КПБ. З 1992 па 1996 год — старшыня Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь. З 1996 года — член Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

**Уладзімір Мікалаевіч СКВАРЦОЎ** нарадзіўся ў 1954 годзе. Скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў, БДУ. Валодае нямецкай і англійскай мовамі. З 1992 па 1995 год працаваў на розных пасадах у цэнтральным апараце МЗС Беларусі. З 1995 па 1998 год — дарадчык Пасольства Рэспублікі Беларусь у ФРГ, потым — Часовы Паверанны ў справах Рэспублікі Беларусь у ФРГ. Са жніўня 1998 года да цяперашняга прызначэння — кіраўнік прэс-службы прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**Максім ЦІТОЎ.**

## Які гістарычны шанц рыхтуюць Беларусі расійскія візіцёры?

8 верасня 1514 года... Дата, якая назаўжды ўвайшла ў гісторыю Беларусі як Дзень вайсковай славы. Менавіта ў гэты дзень пад Оршай, на рацэ Крапіўна, войскі Вялікага княства Літоўскага пад началам Канстанціна Астрожскага ўшчэнт разбілі войскі Маскоўскага княства, якія ўварваліся на тэрыторыю Беларусі і па колькасці перавышалі ў некалькі разоў вялікакняжацкія войскі. Гэта была сапраўды гістарычная перамога, якая паказала гатоўнасць і ўменне нашых продкаў пастаяць за сваю незалежнасць, узвысіла аўтарытэт Вялікага княства Літоўскага ў Еўропе.

З таго дня прайшлі стагоддзі... Зусім іншым стаў свет. З мапы зніклі створаныя ў сярэднявеччы і больш познія часы імперыі. Распаўся і Савецкі Саюз як спадкаемца Расійскай імперыі, да якой у выніку падзелу Рэчы Паспалітай (1772, 1792, 1795 гг.) гвалтоўна была далучана і Беларусь. У Еўропе склалася новая супольнасць дзяржаў — Еўрасаюз, мэтай якога — ствараць умовы для ўзаемавыгаднай інтэграцыі эканомік, шырокага абмену дасягненнямі навукі і культуры, свабоднага перамяшчэння людзей па яго тэрыторыі. І ўсё гэта робіцца пры захаванні дзяржаўнага суверэнітэту ўваходзячых у саюз краін. Таму сёння ўсе дэмакратычныя краіны Еўропы мараць аб тым, каб стаць сябрамі названага саюза.

І цяжка ўявіць, што ў гэты час яшчэ ёсць палітыкі, якія ў падыходах да інтэграцыі краін засталіся на ўзроўні сярэднявечча. Для іх па-ранейшаму галоўным з'яўляецца аб'яднанне краін у адну дзяржаву, што, як паказала сусветная практыка, вядзе да грэбавання інтарэсамі малых народаў. Тытульная нацыя, мова і культура якой у такой дзяржаве з'яўляюцца дамінуючай, пачынае падаўляць правы і свабоды іншых народаў. Таму вельмі незразумелым з'яўляецца гістарычны шанц для беларускага народа, які яму пачаў прапаноўваць новы памагаты Лукашэнкі па аб'яднанні Беларусі і Расіі — Уладзімір Пуцін. Дарэчы, свой прыезд у нашу краіну новы кіраўнік урада Расійскай Федэрацыі прымеркаваў менавіта да 8 верасня, як бы падкрэсліўшы тым самым, што ён прапануе беларускаму народу ўсё той жа гістарычны шанц, які прапаноўвалі беларусам і ў 1514 годзе, імкнучыся далучыць беларускія землі да Маскоўскага княства.

У.Пуцін будзе весці перамовы аб аб'яднанні Беларусі і Расіі з чалавекам, у якога няма на гэта ніякіх юрыдычных правоў. Тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў А.Лукашэнкі скончыўся 20 ліпеня 1999 года, але дзеля дасягнення сваіх шавіністычных амбіцый высокі расійскі чыноўнік на гэта гатовы закрыць вочы. Не здзіўляла ж ягоных папярэднікаў, калі яны з дапамогай сілы ў Чэчні правялі штучныя "выбары" і займелі свайго "прэзідэнта", закрыўшы пры гэтым вочы на тое, што чэчэнскі народ працягваў змаганне за незалежнасць сваёй краіны. Выходзіць, і У.Пуціна не здзіўляе той факт, што так званы рэферэндум 1996 года ў Беларусі праводзіўся пры дапамозе бронетранспарцёраў, аўтаматчыкаў, якія блакавалі будынак Цэнтрвыбаркама, і іншых недазволеных прыёмаў. Дэмакратычны свет не прызнае легітымнымі такія метады і атрыманыя пры іх дапамозе вынікі галасавання, а многія расійскія палітыкі, патрабуючы правядзення ў сваёй краіне "честных и справедливых выборов", лічаць насілле над народам, якое адбылося ў лістападзе 1996 года ў Беларусі, рэферэндумам. Такі падыход да метадаў правядзення выбараў у Чэчні і рэферэндуму ў Беларусі шмат чаго гаворыць аб той гістарычнай перспектыве, якая чакае, у дадзеным выпадку, беларускі народ, калі, не дай Бог, будуць здзейснены цемрашальныя планы А.Лукашэнкі і яго расійскіхаднадумцаў.

Але ў Беларусі сапраўды сёння ёсць гістарычны шанц. Шанц — не ўвайсці ў склад Расіі ў якасці "Северо-Западного края" (гэты шанц беларускі народ ужо зведаў), а застацца незалежнай краінай. Ды і наогул, куды ісці? З кім аб'ядноўвацца? З той краінай, якая сёння сама распадаецца, дзе беспераппынна ідзе вайна і льецца кроў?

Беларусь павінна вярнуцца на дэмакратычны шлях развіцця і стаць паўнапраўным сябрам еўрапейскай сям'і дзяржаў. Для гэтага толькі трэба ўсвядоміць беларусам даброты такога гістарычнага шанца, які для многіх еўрапейскіх краін стаў ужо рэальнасцю.

**Сямён ШАРЭЦКІ, старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**Памяць**

*Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ*

# Гэта — дзень вайсковай нашай Славы

**Штогод патрыятычная грамадскасць Беларусі адзначае 8 верасня як Дзень беларускай вайсковай славы. Святкаванне яго пачалося сем гадоў таму, 8 верасня 1992 года, калі Беларускае згуртаванне вайскоўцаў і Беларускі народны фронт правялі мітынг, удзельнікі якога прынялі вайсковую прысягу на вернасць Рэспубліцы Беларусь.**

Беларускае згуртаванне вайскоўцаў (БЗВ) было заснавана беларускімі афіцэрамі-патрыётамі 19—20 жніўня 1991 г., падчас жнівеньскага путчу ГКЧП у Маскве і падтрымкі путчу камуністычнай наменклатурай у Беларусі. Тады старшыня БЗВ падпалкоўнік Мікола Статкевіч на мітынгу ў Мінску перад Домам урада папярэдзіў путчыстаў і іх прыхільнікаў, што беларускія вайскоўцы будуць змагацца за дэмакратыю, незалежнасць і суверэнітэт Беларусі.

БЗВ прымала ўдзел у распрацоўцы дакументаў па фарміраванні ўзброеных сіл Беларусі і правядзенні вайсковай рэформы. Кансерватыўныя сілы, што стаялі на чале нашай краіны, дамагліся спынення дзейнасці БЗВ у лютым 1994 г. Сябры БЗВ былі звольнены са службы ў арміі. У сакавіку 1995 г. быў створаны Патрыятычны рух БЗВ запасу, асоб у адстаўцы і іншых грамадзян. Яго ўзначаліў палкоўнік запасу Алесь Станкевіч.

...8 верасня 1992 г. на плошчы Незалежнасці сабраліся сотні афіцэраў, афіцэраў запасу і ў адстаўцы, палітычных дзеячаў, сяброў БНФ і БСДГ, прыхільнікаў незалежнага шляху нашай краіны. Атмасфера была ўзнёслай. Аркестр выконваў вайсковыя маршы і нацыянальныя музычныя творы. На ўрачыстым мітынгу выступоўцы нагадалі пра славутую Аршанскую бітву 8 верасня 1514 года, калі беларускае 30-тысячнае войска пад камандаваннем гетмана Канстанціна Іванавіча Астрожскага поўнасцю разграміла 80-тысячнае коннае войска маскоўскіх баяраў і дваранаў, палова з якіх загінула на полі бою і падчас уцёкаў, а пяць тысяч, у тым ліку галоўныя ваяводы Іван Чаляднін і князь Міхаіл Булгакаў-Галіца, трапілі ў палон. Аршанская перамога ўвайшла ў гісторыю Беларусі як слаўная перамога беларускай зброі. Яна выратавала Беларусь ад уварвання захопнікаў і замацавала ўсходнюю мяжу Беларусі на стагоддзі.

Настаў урачысты момант прыняцця прысягі. Людзі хутка становяцца ў шыхты. Над плошчай раздаецца каманда падпалкоўніка Міколы Статкевіча: "Зважай!". Зачытваецца тэкст прысягі на вернасць Рэспубліцы Беларусь на беларускай мове. Стоячы на калене, афіцэры і былыя афіцэры прымаюць воінскую прысягу, паўтараючы яе словы. Побач са мной прысягу прымаюць Васіль Быкаў, Зянон Пазьняк, Артур Вольскі. Пасля ўсе, хто прыняў прысягу, ставяць свае подпісы пад яе тэкстам. Гучыць музыка. Усе ва ўзнёслым настроі. Дарэчы, гэтую ж самую прысягу праз некалькі месяцаў прынялі афіцэры і салдаты Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

З таго часу штогод 8 верасня святкуецца Дзень беларускай вайсковай славы.

...Яшчэ ў 1994 г. газеты выходзілі з загалоўкамі "Славай продкаў ганарымся". 8 верасня 1994 г., у гонар 480-й гадавіны Аршанскай бітвы, Беларускі народны фронт падрыхтаваў гэтае свята асабліва ўрачыста. Быў выезд некалькіх дзесяткаў чалавек на поле Аршанскай бітвы. Праваслаўны і каталіцкі святары асвяцілі памятны камень на месцы, дзе амаль пяць стагоддзяў таму стаяла беларуская пяхота і гарматы.

Асабліва ўрачыста прайшло свята ў Мінску на плошчы ля Опернага тэатра. У шэсці ад парка імя Янкі Купалы да плошчы, дзе святкавалі, удзельнічалі вершнікі ў касцюмах XVI ст., ішла пяхота з дзідамі і мячамі, у кальчугах (тэатральных). Шэсце і мітынг былі дазволеныя гарадскім выканкамам. Але, парушаючы ўказ прэзідыума Вярхоўнага Савета (1988 г.), за два дні да святкавання гарвыканкам нечакана забраў свой дазвол назад (між тым, паводле ўказа, было магчыма адмяніць рашэнне за 5 дзён).

Потым стала вядома — толькі што абраны прэзідэнтам А.Лукашэнка загадаў забараніць шэсце і мітынг: "Они хотят поссорить меня с Москвой!" Новаабраны прэзідэнт ужо тады пачаў не лічыцца з заканадаўствам, але выканаўцы яшчэ да гэтага не адразу прызвычаіліся. Зразумела, што ў аргкамітэта, які я тады ўзначальваў, не было магчымасці папярэдзіць усіх людзей. Таму было вырашана дзейнічаць паводле закона, г.зн. праводзіць шэсце і мітынг. Замест шасці, як было заяўлена, прыйшло пятнаццаць тысяч чалавек. Міліцыя спрабавала спыніць тыя некалькі тысяч, што сабраліся ў парку Янкі Купалы, ля выхаду з парка. Але дэпутаты Вярхоўнага Савета на чале з З.Пазьняком змаглі перапканаць падпалкоўніка міліцыі, што ўсё ідзе згодна з нормамі заканадаўства, і той адвёў свае сілы на сярэдзіну вуліцы Янкі Купалы. Ля маста над Свіслаччу шэсце "віталі" чалавек дзесяць рускіх фашыстаў. Яны ўскінулі рукі ў фашысцкай манеры і скандзіравалі: "Единая и неделимая Россия". На іх не звярталі ўвагі.

Перад мітынгам прайшоў парад старадаўняй конніцы і пяхоты, а потым быў паядынак двух воінаў. Пасля кароткага мітынгу дацямна (згодна з заяўкай) мастацкія калектывы і рок-гурты выступалі з багатай музычнай праграмай.

...Праз некалькі дзён старшыню аргкамітэта запрасілі ў міліцыю і прад'явілі абвінавачанне ў арганізацыі беспарадкаў (хаця неафіцыйна маёр, які вёў справу, сказаў мне, што ў нас усё было "па закону", але яны маюць загад). Потым справа была перададзена ў суд. Але пакольні я звярнуўся па дапамогу да адваката, то справа зацягнулася.

Паводле тагачаснага грамадзянскага кодэкса, справа спынялася, калі праходзіла два месяцы ад дня яе ўзбуджэння. Двойчы я прыходзіў на суд, двойчы збіраліся людзі. Урэшце справа была закрыта. Праўда, з-за гэтых мітрэнгаў я прапусціў дзве міжнародныя канферэнцыі: у Кішынёве — па хрысціянстве і ў Будапешце — па палітычным развіцці краін Паўднёва-Усходняй Еўропы.

Ужо тады можна было прадбачыць, чаго чакаць ад такога рэжыму. Але, нягледзячы на розныя абмежаванні, Беларускі народны фронт ладзіць штогод урачыстае шэсце. І ў гэтым годзе 8 верасня будзе святкавацца Дзень беларускай вайсковай славы. Ён пройдзе пад знакам барацьбы за дэмакратыю, супраць дыктатуры, за незалежнасць і суверэнітэт Рэспублікі Беларусь.

**На здымку:** *плошча Незалежнасці ў Мінску 8 верасня 1992 года. Прафесар Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ, народны пісьменнік Васіль БЫКАЎ і фотакарэспандэнт Анатоль Каляда пасля ўрачыстага прыняцця прысягі на вернасць Рэспубліцы Беларусь.*

**Фота Ул. КАРМІЛКІНА.**

## Прадстаўнікам БСДП (НГ) не дазволілі правесці 8 верасня пікет

Гомельскі гарвыканкам пакінуў без разгляду заяўку гарадской арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная грамада) на правядзенне пікету з нагоды Дня беларускай вайсковай славы, які будзе адзначацца 8 верасня. Сацыял-дэмакраты прасілі дазволіць ім правесці пікет на пляцоўцы каля гарадскога цырка, які месціцца на цэнтральнай вуліцы Гомеля — Савецкай. У планах пікетчыкаў было — нагадаць гамяльчанам пра слаўную перамогу іх продкаў пад Оршай у 1514 годзе і пра неабходнасць з павагай ставіцца да роднай беларускай мовы. Аднак Гомельскі гарвыканкам адмовіў у гэтай просьбе, спаслаўшыся на тое, што БСДП (НГ) не прадставіла дакументы, якія пацвярджаюць праходжанне партыяй перарэгістрацыі.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

## К партийным лидерам, будущим кандидатам в депутаты Государственной думы, кандидатам в президенты Российской Федерации

Уважаемые россияне!

Мы, представители демократической оппозиции Беларуси, обращаемся к вам в сложный и ответственный период в жизни наших народов. В России развертываются парламентская и президентская избирательные кампании, Беларусь находится в ожидании подобных событий. Одновременно готовится некое новое "объединение" двух стран.

Тема российско-белорусских отношений уже несколько лет усиленно эксплуатируется в политических баталиях. В России многие политики периодически разыгрывают "белорусскую карту". В Беларуси день и ночь мусолятся вопросы "интеграции, единения, союза, союзного государства" и т.д. Истинная цель этих спекулятивных действий может толковаться только как болезненное желание властителей двух стран расширить и продлить свою власть, всемерно декларируя мнимые выгоды и преимущества объединения, подыгрывая ностальгирующей части населения двух стран о распаде СССР.

Не обращать серьезного внимания на эти политические игры политиков нельзя — дело касается судеб народов двух государств, заслуживающих лучшей доли.

Российские и белорусские политологи, экономисты, юристы детально изучили вопрос о возможном единении двух стран, нашли в нем не только плюсы, но и большие минусы. Некоторые из аргументов мы считаем особо важными и хотели бы обратить на них особое внимание.

Для России присоединение Беларуси с сохранением ее широкой автономии обернется неисчерпаемым центробежным потенциалом, который приведет к дезинтеграции, превращению федерации в конфедерацию и к дальнейшему расчленению и распаду великой страны.

Объединение двух разных экономических систем приведет к резкому спаду экономики двух государств. На международной арене поглощение Беларуси будет воспринято как проявление имперских устремлений и приведет к полной изоляции России, распаду СНГ.

Для Беларуси присоединение к России означало бы наступление нового этапа борьбы за свободу и национальную независимость (в том числе и путем содействия распаду многонациональной России). Отношения между белорусскими и русскими народами были бы окончательно испорчены. К тому же все договоры, подписанные нелегитимным президентом после смены власти в Беларуси, будут обязательно подвержены ревизии.

Неубедительны для нас и аргументы, будто бы объединение России и Беларуси обеспечит безопасность. История свидетельствует об обратном. Если война между Востоком и Западом начиналась на территории Беларуси, то чьи-то войска проходили вглубь России и доходили даже до Москвы. В лучшем случае, Беларусь смягчала удар, но не могла обезопасить Россию с запада. Россия также ни разу не смогла уберечь народ Беларуси от бед и войн. Наоборот, во всех больших войнах между Востоком и Западом именно территория Беларуси испепелялась, ее народ проливал больше всего крови. От четверти до половины населения теряла Беларусь во время войн царя Алексея Михайловича с Речью Посполитой, Петра I со шведами, похода Наполеона на Россию, первой и второй мировых войн.

Сегодня, согласно современной стратегии, случись военный конфликт России с Западом, участие в нем Беларуси только бы увеличило за ее счет количество жертв и разрушений, но на исход конфликта существенно бы не повлияло.

Опыт истории, нынешнее геополитическое положение Беларуси вынуждают нас искать действенные и надежные пути обеспечения национальных интересов. Безусловно, мы их ищем, прежде всего в формировании отношений с великим соседом — Россией.

(Окончание на 3-й стр.)

**Надвор'е**

8—9 верасня па краіне захаваецца пераменная воблачнасць, без ападкаў, толькі па поўдні рэспублікі — кароткачасовыя дажджы. Вецер усходні і паўночна-ўсходні 4—9 м/с. Тэмпература паветра ўначы — +6...+11, удзень — +20...+25.

**Пр.** Наталлі, Сцяпана.
**К.** Нараджэнне Прачыстае Дзевы Марыі, Радаслава.

**75 гадоў** з дня нараджэння (1924) В.Ф.Чыгіра, беларускага прававеда.

ВЕРАСЕНЬ

8

'99 СЕРАДА

Усход 6.30
Захад 19.43
Даўж. дня 13.13

Маладзік
10 верасня
Усход 5.31
Захад 20.25

